## ПРАДМОВА

Ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай палітыкі ў БССР ставіць як адну з першачарговых задач на мовазнаўчым фронце—устанаўленьне норм беларускай літаратурнай мовы і правапісу. Гэтая неадкладная задача павінна быць як найхутчэй вырашана, паколькі разгалосьсі ў пытаньнях правапісу перашкаджаюць нашаму культурнаму будаўніцтву, адрываюць літаратурную мову, як сродак клясавай барацьбы, ад мовы шырокіх мас пролетарыяту і бядняцка-серадняцкага сялянства.

Першая навуковая спроба афармленьня беларускага правапісу была зроблена Бр. Тарашкевічам яшчэ ў 1918 годзе ў яго „Беларускай граматыцы для школ". У асноўным устаноўлены т. Тарашкевічам правапіс, зразумела, адпавядае навуковым запатрабаваньням роўню таго часу. Тарашкевіч меў поўную рацыю заявіць у прадмове да сваёй граматыкі, што „ўсё найважнейшае зроблена добра". Пераважаючы ў аснове яго правапісу фонэтычны прынцып адпавядае мэтодычнаму запатрабаваньню лёгкасьці. Наогул, як зазначае сам Тарашкевіч, ён „увесь час не выпускаў з вачэй пэдагогічную старану кніжкі". І толькі нянавісьцю клясавых ворагаў—беларускіх фашыстаў Заходняй Беларусі—можна тлумачыць лямант аб тым, што граматыка т. Тарашкевіча, вязьня польскага фашызму, зьяўляецца непэдагогічнай, перасыпана „маскалізмамі" і г. д. Тое самае сьпяваў і махравы нацдэм Я. Лёсік у сваёй рэцэнзіі на граматыку Тарашкевіча.

Зразумела, як першая спроба, правапіс Тарашкевіча ня мог прэтэндаваць на паўнату, а галоўнае, ён у першым выданьні вышаў яшчэ тады, калі вялікія соцыяльныя зрухі, прынесеныя Кастрычнікам, не пасьпелі адбіцца ў беларускай літаратурнай мове. І таму сам Бр. Тарашкевіч зусім слушна кажа: „Аднолька-ж я ня думаю, што жыцьцё ня зробіць з часам значных зьменаў".

Правільная ленінская нацыянальная палітыка, якая дае магчымасьць „уцягнуць па-сапраўднаму адсталыя нацыяналь-

насьці ў справу соцыялістычнага будаўніцтва" (Сталін), уцягнула ў культурнае будаўніцтва шырокія масы беларускага пролетарыяту і працоўнага сялянства. На прыкладзе беларускай мовы яшчэ раз сьцьвердзілася правільная ленінская думка аб тым, што ў кожнай нацыі дзьве нацыі. І ў беларускай мове і навуцы аб ёй адбілася клясавая барацьба.

Беларуская контррэволюцыйная нацдэмаўшчына, якая ў свой час кінула была галоўныя сілы на мовазнаўчы фронт, у сваёй шкодніцкай рабоце на гэтым участку імкнулася адсунуць пролетарыят ад удзелу ў справе стварэньня літаратурнай мовы; таму, зразумела, нацдэмы марудзілі са справай вырашэньня правапісу. Калі-ж яны і ставілі пытаньне аб ім, напр., на так званай Акадэмічнай конфэрэнцыі 1926 году, дык імкнуліся даць такі правапіс, які быў-бы адарваны ад шырокіх рабочых і бядняцка-серадняцкіх сялянскіх мас, прытупляў-бы мову, як зброю клясавай барацьбы.

З далейшай гісторыі правапісу ў БССР трэба адзначыць яшчэ проект „Правапіснай камісіі БАН" 1930 г. („Беларускі правапіс"); ён быў складзены яшчэ пры нацдэмаўскім кіраўніцтве Інстытуту мовазнаўства, і таму нацдэмаўскія ўстаноўкі выразна адбіваюцца як у самім проекце, так і ў даданых да проекту заўвагах паасобных членаў правапіснай камісіі; адбіваюцца гэтыя тэндэнцыі і ў складанасьці шмат якіх правіл нацдэмаўскага проекту.

Прыступіўшы да вельмі складанай і адказнай задачы спрашчэньня беларускага правапісу, сёнешні склад Інстытуту мовазнаўства БАН, які атрымаў цяжкую спадчыну ад былога нацдэмаўскага кіраўніцтва Інстытуту, павёў гэту справу ў напрамку ленінскай моўнай політыкі, рашуча змагаючыся на два фронты як з вялікадзяржаўніцтвам, так і з контррэволюцыйным нацдэмократызмам і ў пытаньнях правапісу. У сваёй рабоце над данай задачай Інстытут кіраваўся наступнымі прынцыпамі і меркаваньнямі.

Прымаючы пад увагу, што ўстаноўлены Тарашкевічам правапіс, які мае за сабой ужо чатырнаццацігадовую традыцыю, у асноўным адпавядае навуковым запатрабаваньням, — Інстытут мовазнаўства БАН прапануе не радыкальныя зьмены ў правапісе, а толькі спрашчэньне некаторых больш цяжкіх пунктаў, дзе неабходнасьць спрашчэньня цалкам насьпела; апрача таго, у прапануемым проекце ўносяцца дапаўненьні з повады некаторых пунктаў, у свой час незакранутых т. Тарашкевічам.

Выходзячы з асноўнага запатрабаваньня зрабіць правапіс даступным для шырокіх мас, Інстытут кладзе ў аснову



проекту марксысцка-ленінскае адзінства фонэтычнага і этымолёгічнага прынцыпаў, як адзінства процілегласьцяў, аддаючы, аднак, разам з Тарашкевічам, вядучую ролю фонэтычнаму прынцыпу. Так, напрыклад, падпарадкаваўшы напісаньне галосных пасьля зычных фонэтычнаму прынцыпу (прав. 10), проект, аднак, пасьлядоўна адмовіўся ад вызначэньня тых зьмен зычных, якія ўжо органічна зьяўляюцца ў выніку сваёй позыцыі перад наступнымі зычнымі і таму не патрабуюць у даным выпадку правядзеньня да канца данага прынцыпу. Такім чынам:

а) не адзначаецца асыміляцыйнае памякчэньне зычных перад наступнымі мяккімі зычнымі ў такіх выпадках, як *сьвет, сьлед* і інш. (прав. 12), што мы маем таксама ня толькі ў рускім правапісе, але нават і ў фонэтычным па сваёй аснове украінскім правапісе;

б) не адзначаецца пераход звонкіх зычных у глухія і глухіх у звонкія (прав. 13), што было прынята ўжо і ў правапісе Тарашкевіча;

в) не адзначаецца зьмена сьвісьцячых у шыпячыя перад шыпячымі і шыпячых у сьвісьцячыя перад сьвісьцячымі (прав. 14).

На фоне правіла 13 проект мяркуе замяніць напісаньне *гарадзкі, суседзтва*, запазычанае ў свой час мэханічна з польскай орфографіі, больш пасьлядоўным і этымолёгічна правільным напісаньнем *гарадскі, суседства* да прав. 16).

Пры вырашэньні пытаньняў аб перадачы тых фонэтычных зьяў, у адносінах да якіх разыходзяцца паміж сабой беларускія дыялекты, Інстытут імкнуўся выходзіць з больш пашыраных варыянтаў, або разнабой паміж гаворкамі імкнуўся прымірыць увядзеньнем у норму больш простай зьявы, якой часта аказвалася форма этымолёгічная. Так, напрыклад, з прычыны складанасьці зьмен, якім падпадаюць ненаціскныя галосныя Е, Я ў розных складах, проект спрашчае правілы перадачы зазначаных галосных у ненаціскным становішчы, правёўшы правіла аб фонэтычнай перадачы ненаціскнога Е праз Я толькі ў першым складзе перад націскам, паколькі ў гэтым становішчы яканьне выяўляецца найбольш выразна, паколькі ў зьмене Е на Я ў даным складзе сходзіцца паміж сабой большасьць беларускіх гаворак (правіла 3); разнабой-жа ў вымаўленьні ненаціскнога Е ў іншых становішчах проект прымірыў правядзеньнем этымолёгічнага прынцыпу.

На тым-жа меркаваньні грунтуецца і прапанова замяніць напісаньне падвойных літар у такіх словах, як *насеньне,*

*жыцьцё, пытаньне,* аднэй літарай (правіла 11), што таксама павінна дапамагаць спрашчэньню правапісу, паколькі з розных варыянтаў у гаворках выбіраецца больш простая форма. Улічыў тут проект і асаблівую пашыраннасьць форм без падваеньня ў гаворках Заходн. Беларусі.

Улічваўся пры ўкладаньні проекту і сэмасыялёгічны момант, роля якога, напрыклад, была выяўлена ў перадачы на пісьме складаных слоў (правіла 7). Сэмантычнымі прычынамі таксама абумоўлена ў беларускай мове пашыранае вымаўленьне пэўных замежных слоў з суфіксам -ІР (правіла 34). Ясна, што пашырэньне такіх форм, як *камандыраваць, будзіраваць, суміраваць, вар'іраваць* замест *камандаваць, будаваць, сумаваць, вар'яваць,* тлумачыцца адштурхоўваньнем ад адпаведных омонімаў, супадзеньне з якімі прывяло-б да блытаніны.

Як будзе зазначана яшчэ далей, улічвалася між іншым і тое палягчэньне і экономія, якія адпаведныя правілы могуць прынесьці для поліграфічнай справы. Так, напрыклад, памянёнае правіла аб невызначэньні мяккасьці ў такіх выпадках, як *сьвет,* дасьць вялікае спрашчэньне ў гэтым кірунку, бо мяккі знак тут вельмі абцяжваў і друк і пісьмо; нярэдка даводзілася пісаць па два, тры і нават больш лішніх Ь у словах (напр., *сьцьвярджэньне, зьдзяйсьненьне* і г. д).

Таксама больш навукова абгрунтавана правіла аб прыставачным зычным В перад пачатковымі націскнымі галоснымі О, У (правіла 9).

Як у галіне фонэтыкі, так асабліва ў галіне морфолёгіі, пры ўстанаўленьні норм правапісу проект улічваў прогрэсыўнасьць данай зьявы, ступень яе пашырэньня ў рабочых і бедняцка-серадняцкіх дыялектах БССР і Заходняй Беларусі.

Тут мы цьверда павінны памятаць словы т. Сталіна, сказанныя ім на XVI зьезьдзе Усе КП(б): „Есьць Беларусь у складзе СССР; але ёсьць і другая Беларусь у складзе іншых дзяржаў. Ці думаеце вы, што пытаньне аб украінскай і беларускай мове можа быць вырашана бяз улічэньня гэтых сваясаблівых умоў"?

У некаторых выпадках, калі ў дыялектах прыблізна ў аднолькавай меры пашыраны два варыянты, калі няясным яшчэ зьяўляецца, якая з форм перамагае, або калі адзін з варыянтаў сёньня пашыраны ў меншай меры, але выразна зьяўляецца прогрэсуючым,—у гэтых усіх выпадках проект узаконьвае два варыянты, але перавагу аддае, аднак, аднаму з іх, ставячы яго на першае месца. Выходзячы з такіх меркаваньняў, даны проект, у процілегласьць проекту нацдэмаў,



якія сьвядома адкідалі ўсе факты беларускай мовы, агульныя з рускай, устанавіў, напрыклад, варыянты для канчаткаў 2-й асобы мн. л. загаднага ладу—на ЫЦЕ, ІЦЕ і на ЭЦЕ, ЕЦЕ (правіла 76).

Не гаворачы ў прадмове аб некаторых іншых, больш дробных пунктах, дзе пановаму вырашаецца або ўпарадкоўваецца пытаньне правапісу ў галіне фонэтыкі і морфолёгіі, мы тут адзначым толькі наступнае. Упяршыню узаконьваюцца даўно ўжо ўжываемыя ў савецкім друку формы дзеяслоўных прыметнікаў абодвух часаў абодвух станаў: існуючы, — ая, — ае, існаваўшы, — ая, — ае, эксплёатуемы,—ая,—ае (правіла 77), супроць увядзеньня якіх так змагаліся нацдэмы, аргумэнтуючы адмоўныя адносіны да гэтых форм спасыланьнем на адсутнасьць іх у сялянскіх гаворках. Патрэбнасьць увядзеньня гэтых форм даказваецца неабходнасьцю адрозьніваць у мове сэнс такіх выразаў, як *эксплёатуемая кляса* ад выразу *эксплёатаваная кляса* і падобных. Ясна, што прапанаваная нацдэмамі форма *эксплёатаваны* ў сэнсе дзеяпрыметніка цяперашняга часу прыводзіць да грубага палітычнага скажэньня сэнсу.

Пры ўнормаваньні правапісу чужаземных слоў Інстытут імкнуўся па магчымасьці сьцерці розьніцу паміж сваімі і чужымі словамі. Улічваючы дыялектычны процэс асваеньня шырокімі працоўнымі масамі замежных слоў, як адзін з этапаў стварэньня будучай інтэрнацыянальнай мовы, проект прапануе падпарадкаваць чужаземныя словы правілам аб аканьні (правіла 23), бо сапраўды, хіба можна сёньня лічыць замежнымі такія словы, як *комуна, соцыялізм,* а тым больш такія скрыжаваныя словы як *колгас, колгасьнік?* Прыняўшы аканьне ў чужаземных словах, Інстытут, аднак, лічыць, што на сёнешнім этапе мы ня можам на чужаземныя словы перанесьці правілы аб яканьні ў беларускіх словах (правіла 25), паколькі ў большасьці выпадкаў у гэтых словах перад даным галосным вымаўляецца цьвёрдая зычная (апрача Л); такім чынам, мы маем у беларускім вымаўленьні гэтых слоў злучэньні БЭ, ПЭ, МЭ, ДЭ ТЭ, і г. д., злучэньні, неўласьцівыя для беларускіх слоў.

Апіраюцца на жывое вымаўленьне і правілы аб перадачы чужаземных злучэньняў *ІО, ІЕ, ІА, ІU* (правіла 29). Пановаму, больш правільна вырашана пытаньне аб апострафе і аб Ь у замежных словах (прав. 27). Спрашчэньнем зьяўляецца правіла 31 аб перадачы падвойных літар у замежных словах адной літарай. Унормавана пытаньне аб морфолёгічным асваеньні слоў чужаземнага пахаджэньня тыпу *проле-*

*тарый, барый* (правіла 39). Упарадкавана перадача чужаземнага *l* (правіла 28). Наогул, як у даным правіле, так і ў правілах аб перадачы зычных *д, т* перад *е, і* (прав. 28 і 30) проект ухіліўся вялікадзяржаўніцкіх тэндэнцый, якія выяўляліся ў імкненьні даныя факты замежных слоў перадаваць абавязкова ў рускім вымаўленьні (лампа, сацыалогія, арыхмеціка, фанэціка).

Але, адлюстроўваючы процэс асваеньня шырокімі працоўнымі масамі чужаземных слоў, проект, аднак, не дапускае вульгарызацыі іх, якую праводзілі ў сваёй шкодніцкай рабоце нацдэмы і праводзяць цяпер фашысты Заходняй Беларусі. З гэтай прычыны, напрыклад, проект прапануе чужаземнае *f* ва ўсіх выпадках перадаваць праз Ф (правілы 35): форма, фабрыка, торф, а ня хворма, хвабрыка, торп.

У разьдзеле аб правапісе ўласных географічных імёнаў прыняты правілы (43-44), якімі вымагаецца адбіцьцё на пісьме асаблівасьцяў той мовы, з якой узяты гэтыя імёны, але пры ўмове, каб перадача гэтых асаблівасьцяў не супярэчыла-б асноўным фактам беларускай фонэтыкі, напр., аканьню, у тых межах, у якіх яно прынята для чужаземных слоў, зьмене В на У ў канцы слоў і перад зычнымі, правілу аб напісаньні галосных пасьля зацьвярдзелых зычных: Ш*э*ўчэнка, а не Ш*а*ўчэнка, паколькі ў небеларускіх словах Э бяз націску захоўваецца нязьменным, аднак, з другога боку—і не Шэўчэн*ко*, паколькі з морфолёгічнага боку данае прозьвішча цалкам асвойваецца: скланяецца як беларускае слова; з гэтай-жа прычыны пішацца Та*л*стой, а не Та*ў*стой, і тым больш не *Таўсты*, паколькі Л у беларускіх словах можа стаяць перад зычным.

Для паўнаты проекту, каб даць магчымасьць зараз-жа карыстацца ім, Інстытут дадаў пункты, якія не выклікаюць сёньня спрэчак (напрыклад, у прав. 2 аб злучэньнях РО, ЛО, РЫ, ЛЫ, далей прав. 10 аб напісаньні галосных пасьля зацьвярдзелых зычных і г. д.); у разьдзеле морфолёгіі больш-менш поўна прыведзены формы скланеньня і спражэньня.

Проект ахапляе спрэчныя пытаньні правапісу, але Інстытут таксама лічыць зусім насьпеўшым і пытаньне аб некаторых зьменах у азбуцы. Такой першачарговай задачай зьяўляецца ўвядзеньне аддзельных літар для абазначэньня афрыкат ДЗ і ДЖ, што дало-б між іншым значную экономію ў поліграфічным вытворстве, а галоўнае — дало-б магчымасьць адрозьніваць на пісьме такія розныя па свайму вымаўленьню выпадкі, як злучэньне двух зычных Д і З у словах: *адзімаваць, водзыў*, ад афрыкаты ДЗ у словах *адзін, дзікі* і т. п.; адрозьніваць злучэньне зычных Д і Ж у словах *паджылы, аджымаць* і пад. ад афрыкаты ДЖ (хаджу). Рашуча выказваючыся за ўвядзеньне новых літар для афрыкат ДЗ і ДЖ, якое дало-б пэўнае спрашчэньне і ў самім правапісе, і ставячы гэта пытаньне на абгаварэньне шырокай пролетарскай грамадзкасьці, Інстытут, не прапануючы якога-небудзь свайго проекту гэтых новых літар, аднак, лічыць, што для абазначэньня афрыкат павінны быць прыняты такія літары, якія не супярэчылі-б агульнаму стылю ўсёй беларускай азбукі і па сваёй композыцыі станавілі-б лігатуры тых літар, якімі абазначаюцца складаныя элемэнты зазначаных афрыкат.

Над разглядам пытаньняў правапісу Інстытут мовазнаўства працаваў у поўным складзе сваіх навуковых супрацоўнікаў, прысьвяціўшы данай справе 15 паседжаньняў, з якіх першае адбылося 8-га сакавіка 1930 г., апошняе 26-га студзеня г. г. Пасьля гэтага проект, быў разгледжан на агульна-акадэмічнай нарадзе (у лютым-сакавіку г. г.), якая ўнесла шэраг дадаткаў і паправак. Некаторыя пытаньні (напрыклад, аб яканьні, аб варыянтах давальнага і меснага склонаў мн. л. мужчынскага і ніяк. р., аб уніфікацыі форм лічэбнікаў двух, двум і г. д. для ўсіх радоў і г. д.) выклікалі найбольш гарачыя спрэчкі; некаторыя пытаньні часам перарашаліся па 2-3 разы.

Разгляд і зацьверджаньне данага проекту спрашчэньня беларускага правапісу будзе праведзена пасьля конфэрэнцыі, дзе даны проект спрашчэньня, складзены Інстытутам Мовазнаўства, будзе пастаўлен на шырокае абгаварэньне.

Самы тэкст проекту напісан паводле старога правапісу, прыклады-ж паданы паводле правіл, прынятых у „проекце“.

У канцы праекту дадаецца ўзор новага правапісу.

*Інстытут Мовазнаўства*
*Беларускай Акадэміі Навук.*

## Увага.

Гэты проект спрашчэньня беларускага правапісу быў разгледжан у парадку папярэдняга абгаварэньня на радзе пасяджэньняў і сходаў—на Колегіі Наркамасьветы, на нарадзе пры ДВС, на Комфракцыі Оргкамітэту Саюзу Савецкіх пісьменьнікаў, на сходах студэнтаў і выкладчыкаў Літаратурна-Лінгвістычнага аддзяленьня Менскага Пэдагогічнага Інстытуту, у НДІ Комвыхаваньня і нарэшце на пасяджэньні спэцыяльнай правапіснай Комісіі пад старшынствам Наркома Н. К. А. БССР т. Чарнушэвіча. На гэтым пасяджэньні правапіснай Комісіі былі ўнесены наступныя зьмены і дадаткі:

I. Замест правіл 11-га і 21-га проекту комісіяй прапануецца наступнае правіла:

З старых злучэньняў зычных з „ь“ перад ётавымі галоснымі атрымліваюцца ў беларускай мове падоўжаныя зычныя, якія перадаюцца на пісьме падвойнымі літарамі, пры чым паводле прав. 12-га паміж імі „ь“ ня пішацца: жыццё, кассё, пытанне, галлё, граззю, ноччу, збожжа, зацішша.

*Увага* І-я. Губныя зычныя і „р“ не падаўжаюцца, і таму пасьля іх для вызначэньня раздзяляльнага галоснага пішацца апостраф: сям'я, двукроп'е, б'ецца, давер'е.

*Увага* 2-я. Не атрымліваецца падаўжэньне і ў тых выпадках, калі перад зычнай стаіць яшчэ адна зычная (нацыянальнасьцю), а таксама ў некаторых уласных імёнах: Аўдоця, Тацяна.

*Увага* 3-я. Без падваеньня пішуцца словы: сьвіня, трэцяя.

*Увага* 4-я. У тых выпадках, калі атрымліваецца падоўжанае „дз“, яно перадаецца прад „ддз“: суддзя, разводдзе.

II. Да правіла 8-га дадаецца ўвага:

Вершаваныя творы, напісаныя да выданьня новага правапісу, перадрукоўваюцца з ужываньнем „у“ паводле старага правапісу.



III. Замест правіла 19-га прапануецца наступнае правіла:

Зычныя Г, Ж, З, Х, Ш, у географічных назвах ня зьліваюцца з суфіксальным С, пры чым Г, К у большасьці выпадкаў зьмяняюцца на Ж, Ш.

| | |
|---|---|
| рыжскі | мсціжскі |
| волжскі | абхазскі |
| пражскі | кіргізскі |
| парыжскі | каўказскі |
| суражскі | французскі |
| вяліжскі | чэшскі |
| варонежскі | чувашскі |

У некаторых рэдка ўжываных географічных назвах Х і Г не зьмяняюцца на Ш і Ж:

| | |
|---|---|
| цурыхскі | выбаргскі |
| адэхскі | арэнбургскі |

Таксама і К у рэдка ўжываных назвах іншамоўнага паходжэньня з наступным суфіксальным С ня зьліваецца ў Ц:

| | |
|---|---|
| узбекскі | маздокскі |

У беларускіх словах Ж і Ш перад суфіксальным С выпадаюць:

| | |
|---|---|
| мноства | таварыскі |
| прыгоства | таварыства |
| убоства | харастве |

IV. Да правіла 26 прапанаваны наступны дадатак:

Але ў вузка-навуковых тэрмінах, асабліва там, дзе з літарамі О-А зьвязваецца сэнсавае адрозьніваньне, або дзе ствараюцца омонімы ў данай галіне навукі, захоўваецца нанаціскное „о“:

| | | |
|---|---|---|
| оксо | і окса | у хіміі |
| орсін | і арсін | |

V. Да правіла 29-га дадаецца увага:

Але: магазын, музыка.

VI. Да правіла 46-га дадаецца ўвага:

Але ў замежных прозьвішчах Du перадаецца праз Д'ю:

| | |
|---|---|
| Д'юма | Д'юбуа |
| Д'юрынг | Д'юнон |

VII. Пасьля 46-га прав. увесьці наступнае правіла:

Уласныя асабовыя беларускія імёны пішуцца паводле жаданьня іх носьбітаў:

| | |
|---|---|
| Васіль | або Базыль |
| Восіп | або Язэп |
| Іван | або Янка |
| Міхаіл | або Міхась і г. д. |

Імёны іншых моў запісваюцца беларускімі літарамі паводле асноўных правіл беларускай фанэтыкі, але не перакладаюцца як у поўным напісаньні, так і ў скарочаным:

Іосіф Вісарыёнавіч Сталін—І. В. Сталін.

Нікалай Міхайлавіч Пакроўскі—Н. М. Пакроўскі.

VIII. Да прав. 55 уносіцца наступная зьмена:

Назоўнікі жан. р. вышэй зазначанай катэгорыі, а таксама назоўнікі жан. р. без канчатку ў назоўным склоне адзін. ліку маюць і канчаткі АЎ, ЯЎ:

| | |
|---|---|
| глебаў | рэчаў |
| вежаў | арцеляў |
| межаў | сенажацяў |
| капальняў | плыняў |
| майстэрняў | народнасцяў |
| тоняў | меньшасцяў |
| нетраў | дробязяў |
| лазьняў | далоняў |
| студняў | |

Назоўнікі жан. р. без канчатку ў назоўным скл. адзін. л. могуць мець таксама канчаткі ЭЙ, ЕЙ як пад націскам так і не пад націскам:

| | |
|---|---|
| начэй | арцелей |
| пячэй | сенажацей |
| мышэй | плыней |
| курэй | народнасцей |
| гусей | меншасцей |
| снасцей | дробязей |
| касцей | далоней |

IX. Да правіла 76 уносіцца наступная зьмена:

Дзеяпрыметнікі незалежнага стану мужч. роду цяперашняга і мінулага часу пішуцца з канчаткам Й:

| | |
|---|---|
| існуючый | пануючый |
| існаваўшый | панаваўшый і г. д. |

Больш дробныя і рэдакцыйныя зьмены ўнесены ў тэкст самога проекту.



# I. ФОНЭТЫКА

## А. Правапіс галосных

*Правіла 1.* Галосныя О, Ё, Э пішуцца толькі пад націскам:

| | | |
|---|---|---|
| горад | лётчык | гэты |
| мова | заўсёды | рэкі |
| моладзь | сёня | жэрдка |
| воды | сёлы | цэгла |

*Правіла 2.* Галосная О не пад націскам заўсёды зьмяняецца на А:

дом — дамы
стол — сталы
горад — гарады
воды — вада
горы — гара
ногі — нага
косы — каса

У некаторых словах склады РО, ЛО не пад націскам пераходзяць у РЫ, ЛЫ:

гром — грымець
крошка — крышыць
кроў — крыві
дровы — дрывотня
бровы — брыва
трох — трыма
глотка — глытаць

*Правіла 3.* Галоснае Е (Ё) не пад націскам зьмяняецца на Я толькі ў першым складзе перад націскам:

| | |
|---|---|
| бяда | сястра |
| лясы | дзявяты |
| сяло | дзясяты |
| сяляне | сямнацаты |

Ва ўсіх іншых выпадках як перад націскам, так і пасьля націску пішацца Е:

| | |
|---|---|
| земляны | высветліць |
| селянін | выехаць |
| летуны | восень |
| ваенізацыя | верасень |
| непісьмены | вецер |
| велізарны | возера |
| нерухомы | сіненькі |
| верацяно | поле |
| нецікава | будзе |

Аб напісаньні ненаціскнога Е ў канчатку слоў гл. разьдзел морфолёгіі.

*Правіла 4.* НЕ і БЕЗ, стоячы асобна, заўсёды пішуцца з Е:

не быў
не браў
без меры
без жартаў

*Правіла 5.* Правіла 3 не пашыраецца на этымолёгічнае Я, якое застаецца нязьменным у ненаціскных складах:

| | |
|---|---|
| цыганіна | заяц |
| пяцярня | месяц |
| цяжкавата | памяць |
| яравы | дробязь |
| языкаты | завязь |
| мяккаваты | тысяча |
| пояс | дзевяць |
| выцяжка | дзесяць |

*Правіла 6.* Галоснае Э не пад націскам зьмяняецца на А

рэкі — рака
шэры — шарак
шэпты — шаптаць
жэрдка — жардзіна
чэрап — чарапы
цэны — цана
цэлы — цаліна
цэд—цадзіць



*Правіла 7.* Складаныя словы пішуцца паводле правіл правапісу аб А, О, Е, Э у кожнай частцы слова:

| | |
|---|---|
| колавярчэне | штодзённы |
| прыродазнаўства | цвёрдакрылы |
| чырвонаармеец | чэхаславацкі |
| лёназагатоўкі | дрэваапрацоўчы |
| торфараспрацоўкі | шэсцьсот |
| домакіраўніцтва | восемсот |
| трохпавярховы | дзевяцьсот |

своеасаблівы
своечасовы
фотарэпрадуктар
фотаапарат
кіноапэратар
політэхнічны

Калі другая частка складанага слова становіць сабою скарочанае слова і асобна ня ўжываецца, дык усё слова пішацца як нескладанае:

| | |
|---|---|
| канавал | стагодзе |
| ваўкадаў | мядзведзь |
| калаўрот | ледарэз |
| веснаход | земляроб |
| дамасед | чарназем |
| далакоп | шаснацаць |
| кастапраў | сямнацаць |
| крывасос | васямнацаць |
| крывацёк | дзевятнацаць |
| дрывасек | пяцьдзясят |
| чарнавокі | шэсьцьдзесят |
| навабранец | семдзесят |
| галаледзіца | восемдзесят |

У другой частцы складана-скарочаных слоў пад націскам аднаўляецца этымолёгічная галосная.

нарком
гарком
камсод
дзяткор

*Правіла 8.* Галосныя У, І ў пачатку слоў, а таксама і ў асобным напісаньні (калі У — прыназоўнік, а І — злучнік), як пасьля зычнага, так і пасьля галоснага заўсёды пішуцца праз У, І (складовыя):

лепшы ударнік
прыехалі у горад
звярнулі увагу

савецкая улада
тэмпы і якасць
мы ідзём

*Правіла 9.* Перад пачатковымі націскнымі галоснымі О, У заўсёды разьвіваецца В:

| | |
|---|---|
| восень | вуліца |
| восем | вучань |
| вокны | вугаль |
| Ворша | вузел |
| ворыва | вус |
| вострьі | вуха |
| вобраз | вуздзенскі |
| вогнік | вусны |

Перад ненаціскным У стаіць В тады, калі гэта У не зьяўляецца приставачным і не разьвілося з В:

| | АЛЕ: |
|---|---|
| вучыцца | участак |
| вужака | увага |
| у вушу | увязка |
| вугальчык | удоўж |
| вузельчык | урад |
| вусаты | удзел |
| вуглямі | улада |
| вуграмі | Узда |

Пасьля прыназоўнікаў перад пачатковым ненаціскным А ня пішацца В:

| | |
|---|---|
| у агні | на акне |
| у акне | у адрыне |

### Б. Правапіс зычных

*Правіла 10.* Пасьля зычных зацьвярдзелых Р, Ж, Ч, Ш, Ц (не з *т* мяккага) ніколі ня пішацца літары І, Е, Я, Ё, Ю, Ь

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| тры | трэба | гразь | бяроза | бручка |
| жыць | жэрдка | грады | жоўты | гарую |
| шыць | цэгла | пража | шчотка | гавару |
| чысты | цэлы | прасла | ішоў | ночу |

*Правіла 11.* Працяжнае вымаўленьне зычных, якое наглядаецца ў некаторых мясцовасьцях Беларусі, не адзначаецца падвойным напісаньнем гэтых зычных:

| | |
|---|---|
| галё | зяе |
| раля | солю |
| вяселе | насене |



| | |
|---|---|
| пытане | рызё |
| касё | заціша |
| калосе | збожа |
| гразю | смеце |
| мазю | жыцё |
| ночу | судзя |

Але пры злучэньні карэннага Н з такім-жа суфіксальным пішыцца два Н

| | |
|---|---|
| раённы | карэнны |
| конны | каменны |
| коннік | раменны |
| дзённы | сонны |

Таксама захоўваецца падвойнае напісаньне і ў тых выпадках, калі мы маем злучэньне З або С прыстаўкі з такімі-ж наступнымі гукамі кораня:

| | |
|---|---|
| рассмяяцца | рассудны |
| расспяваўся | раззнаёміцца |
| ссыпаць | |

Але: расада.

*Правіла 12.* Мяккасьць зычных перад наступнымі мяккімі складамі не адзначаецца, г. зн. пасьля іх ня пішацца мяккі знак:

| | |
|---|---|
| зняць | схіліцца |
| звер | дзве |
| свет | дзверы |
| снег | цвёрды |
| след | цвярозы |
| смех | сцвердзіць |
| свет | радасць |
| цвісці | шэсць |
| згінуць | ёсць |
| скінуць | есці |

Калі ў словах пішацца Ь перад цьвёрдым складам, дык ён захоўваецца і перад мяккім:

рэдзька — рэдзькі
пісьмо — у пісьме, пісьмены
процьма — касьбе
касьба —

У суфіксе „СТВ“ Т не падлягае зьмякчэньню на Ц:

у гаспадарстве
у прыродазнаўстве
у грамадазнаўстве

*Правіла 13.* Пераход звонкага ў глухі і наадварот глухога ў звонкі як у сярэдзіне, так і ў канцы слоў на пісьме не адзначаецца:

| | |
|---|---|
| блізка | бабка |
| казка | просьба |
| будка | касьба |
| дзядзька | носьбіт |
| ножка | малацьба |
| мужчына | кадка |
| гарадскі | нож |
| следчы | дзед |
| пяцьдзясят | хлеб |
| воз | грыб |
| мазь | рог |

Гэта правіла не пашыраецца на прыстаўкі З, УЗ, РАЗ, БЕЗ, ЦЕРАЗ, у якіх перад глухім гук З пераходзіць у С:

| | |
|---|---|
| спроба | расход |
| ссыпаць | бясплодны |
| схапіць | бясспрэчны |
| усхваляваць | беспрытульны |
| раскідаць | цераспалосіца |

*Правіла 14.* Пераход сьвісьцячых перад шыпячымі у шыпячыя і наадварот шыпячых у сьвісьцячыя на пісьме не адзначаецца:

| | |
|---|---|
| возчык | на рэчцы |
| прыказчык | дачцэ |
| разносчык | у дзежцы |
| перапісчык | на дошцы |
| пясчаны | цешышся |

АЛЕ: шчасце, рошчына.

*Правіла 15.* У злучэньнях карэнных зычных Д, Т з суфіксальным Ч гэтыя зычныя захоўваюцца нязьменнымі.

следчы
падводчык
суседчын
матчын
газэтчык



*Правіла 16.* У злучэньні Т з суфіксамі СК, СТВ гэта Т з наступным С зьліваецца ў Ц:

| | |
|---|---|
| полацкі | марксісцкі |
| дзясяцкі | фашысцкі |
| брацкі | вар'яцтва |
| вар'яцкі | брацтва |
| студэнцкі | студэнцтва |

Злучэньне карэннага Д з гукамі Ч і С наступных суфіксаў, падпарадкуючыся правілу 13, нязьменна захоўваюць Д:

| | |
|---|---|
| сьледчы | суседства |
| гарадскі | грамадства |
| грамадскі | раслінаводства |

*Правіла 17.* Злучэньне ЦЬ+СЯ у трэцяй асобе і ў неазначальнай форме дзеясловаў пасьля галоснага зьмяняецца на ЦЦА, пасьля зычнага на ЦА:

| | |
|---|---|
| змагацца | ад'есца |
| змагаюцца | здасца |

Лічэбнікі 11, 12... 20, 30 пішуцца праз ЦАЦЬ:

| | |
|---|---|
| адзінаццаць | дзевятнаццаць |
| дванаццаць | дваццаць |
| трынаццаць | трыццаць |

*Правіла 18.* У злучэньнях зычных К, Ц, Ч з суфіксальным С (суфіксаў СК, СТВ) гэтыя зычныя зьліваюцца з ім у Ц.

| | |
|---|---|
| бальшавіцкі | батрацтва |
| бядняцкі | бядняцтва |
| калмыцкі | сваяцтва |
| сваяцкі | ткацтва |
| ткацкі | кулацтва |
| салігаліцкі | |

Карэннае С з суфіксальнымі С зьліваюцца ў адно С:

| | |
|---|---|
| рускі | адэскі |
| палескі | тыфліскі |

Але ў зваротных дзеясловах карэннае С з СЯ ня зьліваецца:

аднёсся і г. д.

*Правіла 19.* У злучэньні Г, З, Ж, Х, Ш, С з суфіксальным С гэтыя гукі выпадаюць:

| | |
|---|---|
| рыскі | чэскі |
| волскі | таварыскі |
| парыскі | птуства |
| сураскі | муства |
| вяліскі | мноства |
| кіргіскі | прыгоства |
| каўкаскі | таварыства |

*Правіла 20.* Пры злучэньні *прыставак* на зычны з наступным ётаваным галосным для абазначэньня разьдзельнага іх вымаўленьня паміж імі заўсёды пішацца апостраф:

| | |
|---|---|
| аб'езд | з'ява |
| аб'ява | з'есці |
| пад'ехаць | раз'юшаны |
| пад'есці | раз'ядаць |

*Правіла 21.* Пры злучэньні *карэнных* зычных з наступнымі ётаванымі галоснымі апостраф пішацца толькі пасьля М, Б, П, Р:

сям'я
п'яўка
пер'е
надвор'е
б'ецца

*Правіла 22.* Л перад суфіксам Ц заўсёды пішацца з мяккім знакам: кольца, сальца, пальцы, відэльцы.

Пры утварэньні формы жан. р. ад формы муж. р. на ЦЕЛЬ захоўваецца мяккі знак: вучыцелька, карміцелька.

### II. Правапіс чужаземных слоу

*Правіла 23.* У чужаземных словах О не пад націскам зьмяняецца на А, за выключэньнем канчаткаў, у якіх О (Ё) захоўваецца:

| | |
|---|---|
| рэвалюцыя | радыё |
| каапэрацыя | трыё |
| палітыка | бруто |
| маналёг | нэто |
| камітэт | інкогніто |



*Правіла 24.* Ненаціскныя Io, jo чужаземных словах захоўваюцца нязьменнымі:

| | |
|---|---|
| лёгічны | лёкамабіль |
| апалёгэт | блёкнот |
| пэдолёг | блёкада |
| ётаваны | солё |

*Правіла 25.* Чужаземнае Е пасьля зычных перадаецца праз Э, за выключэньнем выпадкаў пасьля Л, калі чужаземнае Е перадаецца праз Ё:

| | |
|---|---|
| эпапэя | фанэтыка |
| эканомія | гэрой |
| дэбаркадэр | гэаграфія |
| дэлегат | гэалёгія |
| мэтодыка | мэдычны |
| тэлефон | тэатр |
| матэрыялізм | элегія |
| эстафэта | лексічны |
| пэдагог | |

У даўно запазычаных і вельмі пашыраных словах Е перадаецца праз А, Я:

| | |
|---|---|
| гандаль | далікатны |
| дакляраваць | рамонт |
| адукацыя | літара |
| аконам | літаратура |
| дзяжурства | адрас |
| характар | сакратар |

*Правіла 26.* Складаныя чужаземныя словы падлягаюць правілам аб напісаньні беларускіх складаных слоў (гл. правіла 7-е).

*Правіла 27.* У чужаземных словах пры разьдзельным вымаўленьні зычнага з галосным, пасьля Л перад ётаванымі ставіцца мяккі знак, пасьля іншых апостраф:

| | |
|---|---|
| рэльеф | бар'ер |
| Мальер | Рант'е |
| гарн'е | Барб'е |
| Лявуаз'е | Кюв'е |
| манпанс'е | кан'як |
| мар'яж | кан'юнктура |
| суб'ект | Кавэн'як |

*Правіла 28.* Чужаземнае І пасьля Д, Т, Р, Ц, Ж, ДЖ, Ч, Ш передаецца праз Ы, пасьля, С, З і інш. -І:

дырэктар
дывізія
дысцыпліна
дылема
тыран
тып
калектыў
актыў
партыя
гісторыя
аварыя

ізаляцыя
міліцыя
рэжым
жыро
фізыка
азімут
марксізм
прафэсійны
унівэрсітэт
сыстэма
сінус

Перад суфіксальным ЁР чужаземнага пахаджэньня, далей перад тэрмінолёгічным элемэнтам органічнай хіміі ІН (для адрозьніваньня ад тэрмінолёгічнага элемэнту ЫН), а таксама перад славянскім суфіксам ІК (памяншальным) Д і Т пераходзяць у ДЗ і Ц, пасьля якіх І застаецца без пераходу у Ы;

марадзёр
білецёр
манцёр

пэрыдзін
піпэрыдзін
білецік
эпізодзік

Пераходзіць Т у Ц і ў слове ціp.

*Правіла 29.* Чужаземныя злучэньні ІА, ІО (не пад націскам) передаюцца праз ІЯ, а пасьля зацьвярдзелых Ж, ДЖ, Ч, Ш, Ц, а таксама пасьля Д, Т—праз ЫЯ:

гэніяльны
філіяльны
індустрыялізацыя
спэцыяльны
варыянт
сацыялізм
матэрыялізм

бібліяграфія
бібліятэка
гэліятроп
эмбрыянальны
рэвізіянізм
сацыялёгія
пэрыяд

АЛЕ: радыё, трыё

Злучэньне ІО пад націскам передаецца праз ІЁ (ЫЁ):

бібліёграф
біёлёг
аксіёма

эмбрыёлёг
ідыёт
стадыён

Злучэньне ІЕ передаецца праз ІЕ (ЫЕ):

гігіена
кліент

арыентацыя
дыета



Злучэньне іu передаецца праз ІУ (ЫУ):

калёквіум
кансіліум
прасцэніум

прэзыдыум
трыумвірат
радыус

У некаторых даўно запазычаных словах пасьля Р галоснае Ы выпадае, замяняючыся апострафам:

кур'ёзны
сур'ёзны

*Правіла 30.* Замежнае l передаецца пераважна мякка:

дэлегат
дылема
тэлеграф
ліміт
літара
лёзунг
лёгіка
лёкаўт
лёмбард
солё
аэраплян
баляда
лямпа
баляст
кляса
лябараторыя
ляпсус
гіпэрбаля
капэля

навэля
фабуля
люстра
блюза
люпа
клюб
алькаголь
вулькан
бэлька
балькон
аўтамабіль
бінокль
мэталь
крышталь
вадэвіль
вэстыбюль
лёкамабіль
бэнзоль
мэнтоль

Але:

лацінка
лубін
артыкул
арсэнал

формула
адмірал
ідэал

*Правіла 31.* У чужаземных словах падвойныя зычныя на пісьме не адзначаюцца:

Але:

апарат
асіміляцыя
камуна
алё

ва́нна
бо́нна
манна
Га́нна

*Правіла 32.* Французскае u і нямецкае ü перадаюцца праз Ю; пасьля зацьвярдзелых Ж, ДЖ, Ч, Ш, Ц, Р, а таксама Д, Т—праз У:

| | |
|---|---|
| бюст | нактурн |
| бюро | душэс |
| вэстыбюль | журы |
| нюанс | брашура |
| Мюрат | тульпан |
| пюрэ | туль |

АЛЕ: дзюна, эцюд

*Правіла 33.* Нямецкае злучэньне EI перадаецца праз ЭЙ, ЕЙ:

гэйзэр
Швэйцарыя
рэйнвэйн
лейтматыў
Лейбніц

*Правіла 34.* Чужаземныя th, гр. ϑ перадаюцца пераважна праз ф:

| | |
|---|---|
| арыфмэтыка | міф |
| арфаграфія | дыфірамб |
| лёгарыфм | эфіоп |
| пафос | Афіны |
| эфір | Піфагор |

АЛЕ:

| | |
|---|---|
| тэатр | бібліятэка |
| тэарэма | тэорыя |
| тэзіс | катэдра |
| тэізм | мэтад |

і ўсе словы, у склад якіх уваходзіць „антрапа—“.

*Правіла 35.* Чужаземнае f, гр. φ ва ўсіх выпадках перадаецца праз Ф:

| | |
|---|---|
| форма | торф |
| фунт | фабрыка |
| фантазія | фэльчар |
| тыф | |

*Правіла 36.* У словах чужаземнага паходжаньня ўстаўка ir прапускаецца:

| | |
|---|---|
| канстатаваць | стымуляваць |
| аналізаваць | сімуляваць |
| сабатаваць | візаваць |
| дэлегаваць | абстрагаваць |



АЛЕ:

| | |
|---|---|
| камандыраваць | мусіраваць |
| манкіраваць | утрыраваць |
| будзіраваць | трэніраваць |
| капіраваць | трэтыраваць |
| вар'іраваць | ватыраваць |
| суміраваць | шпацыраваць |
| пікіраваць | |

*Правіла 37.* Канчаткі, eur, aire перадаюцца праз ЭР ці праз ЁР:

Але:

| | |
|---|---|
| рэзанэр | кантралёр |
| парлямэнтэр | манцёр |
| акцыянэр | марадзёр |
| антрэпрэнэр | білецёр |
| рэжысэр | фантазёр |
| шофэр | |
| міліцыянэр | |
| інжэнэр | |

*Правіла 38.* Злучэньні ТР, ДР у канцы слоў чужаземнага паходжэньня перадаюцца бяз зьмен:

| | |
|---|---|
| мэтр | дыямэтр |
| літр | магістр |
| баромэтр | міністр |

*Правіла 39.* Словы чужаземнага паходжэньня тыпу *пралетарый, барый, алюміній*, якія раней пісаліся з канчаткамі Ы, І або зусім без канчаткаў, пішуцца з канчаткамі ЫЙ, ІЙ і скланяюцца, як беларускія назоўнікі тыпу *май*.

| | | |
|---|---|---|
| пралетарый | барый | алюміній |
| пралетарыя | барыя | алюмінія |
| пралетарыю | барыю | алюмінію |

*Увага.* Але дапускаюцца і формы пралетар,—а,—у.

*Правіла 40.* Словы тыпу *камуніст* пішуцца без канчатку і скланяюцца не як прыметнікі (камуністага, камуністаму), а як назоўнікі тыпу *брат:* камуніст, камуніста, камуністу.

*Правіла 41.* У словах замежнага паходжэньня, якія канчаюцца на ДТ, у беларускім правапісе (як і ў вымаўленьні)

